ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

# Голас Радзімы

№ 8 [2202] 21 ЛЮТАГА 1991 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 8 кап.

# ЦЯЖАР НА СВАЕ ПЛЕЧЫ

Паведамленне аб намеры стварыць (адрадзіць) БСДГ упершыню публічна прагучала на рэспубліканскім форуме інтэлігенцыі, які адбыўся 1 снежня мінулага года ў Доме літаратара і быў прысвечаны тэме: «Інтэлігенцыя ў нацыянальным адраджэнні і ажыццяўленні суверэнітэту Беларусі». А неўзабаве ў газеце «Літаратура і мастацтва» з'явілася Заява ініцыятыўнага камітэта па стварэнні (адраджэнні) Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. «Гэтая партыя ствараецца не адвольна,— сказана ў Заяве,— яна мае пад сабой адпаведны гістарычны грунт, адпаведныя карані, традыцыі, вопыт. Ля вытокаў беларускай сацыял-дэмакратыі (у летапісе нацыянальна-вызваленчага руху яна пазначана складанаскарочанымі назвамі БСГ, БСДРГ, БСДП, БСДРП) сталі такія выдатныя палітычныя, грамадскія і культурныя дзеячы, як А. Луцкевіч, А. Уласаў, К.Кастравіцкі (Карусь Каганец), А. Пашкевіч (Цётка), В. Ластоўскі, А. Бурбіс, З. Жылуновіч (Ц.Гартны), А. Смоліч, А. Прушынскі (Алесь Гарун), Я. Дыла, Б. Тарашкевіч, А. Чарвякоў, С. Рак-Міхайлоўскі і іншыя. Звяртаючыся да тэарэтычнай спадчыны беларускай сацыял-дэмакратыі, пераконваешся, што многае ў ёй як нельга лепш адпавядала гісторыка-сацыяльным і прыродным асаблівасцям краю, духоўнаму складу і нацыянальнаму характару жыхара Беларусі. Яе ідэі не толькі не страцілі сваёй актуальнасці, але набываюць сёння асаблівы сэнс: зямля — сялянам і прыярытэтнае развіццё сельскай гаспадаркі; добраахвотная кааперацыя; сацыяльныя гарантыі работнікам; дэмакратычная ўлада, парламенцкая рэспубліка; незалежная, суверэнная Беларусь.

З членам ініцыятыўнага камітэта па стварэнні БСДГ, народным дэпутатам БССР Алегам ТРУСАВЫМ гутарыць наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА.

(Заканчэнне на 7-й стар.).



З 12 па 15 лютага ў выставачным комплексе «Мінскэкспа» Гандлёва-прамысловай палаты БССР прайшла міжнародная выстаўка «[illegible]экспа-91». У ёй удзельнічалі каля шасцідзесяці польскіх фірм, многія з якіх добра зарэкамендавалі сябе на міжнародным рынку: «Экспалька», «Іглаполь», «Палена», «Бумар» і іншыя. У іх экспазіцыях — тэхналогіі, абсталяванне для электратэхнічнай і хімічнай прамысловасці, будаўнічая тэхніка, а таксама тавары шырокага ўжытку.

Удзельнікі выстаўкі, польскія фірмы, маюць шматгадовы вопыт супрацоўніцтва з бізнесменамі Германіі, Францыі, Іспаніі, ЗША, Вялікабрытаніі. Галоўная мэта арганізацыі «Прамэкспа» — пошук партнёраў, падпісанне кантрактаў, стварэнне сумесных прадпрыемстваў і камерцыйных здзелак.

НА ЗДЫМКАХ: генеральны консул Польшчы ў Мінску Т. МЫСЛІК урачыста адкрывае выстаўку; свае экспанаты дэманструюць прадстаўнікі фірмы «Меркурый».

(Працяг матэрыялу пра выстаўку змешчаны на стар. 2).

Фота С. КРЫЦКАГА.



Са згоды аўтара з гэтага нумара пачынаем друкаваць твор народнага пісьменніка БССР Янкі БРЫЛЯ «Муштук і папка» (папярэдне ён быў змешчаны ў часопісе «Полымя»).

У апошнія гады мы даведаліся многа горкай праўды пра бясчынствы і рэпрэсіі супраць савецкіх людзей у гады культу асобы Сталіна. Часам нават здаецца, што боль пачынае прытупляцца. Аповесць Янкі Брыля нібы гарачае вуголле. Мільёны і кожны асобны чалавек з гэтых мільёнаў назаўжды для некага застануцца болем, незагойнай ранай.

**(Янка БРЫЛЬ. «МУШТУК І ПАПКА»).**

Стар. 6.

РЭХА ЧАРНОБЫЛЯ

## ПАДЗЯКА І СПАДЗЯВАННЕ

Вярхоўны Савет Беларускай ССР прыняў Заяву, у якой ад імя беларускага народа выказана глыбокая ўдзячнасць краінам-саўтарам, усім дзяржавам — членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый за прыняцце на 45-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН рэзалюцыі «Міжнароднае супрацоўніцтва ў справе змякчэння і пераадолення вынікаў аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі».

Беларусь найбольш пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы. Аварыя стала нацыянальнай трагедыяй для нашай рэспублікі. 22,4 працэнта яе тэрыторыі забруджана радыенуклідамі і 20 працэнтаў насельніцтва аказалася ў зоне ўздзеяння радыяцыі, вынікі якой рэальна пагражаюць жыццю і здароўю сотняў тысяч людзей і асабліва дзяцей, будучыні беларускага этнаса.

Выказваючы шчырую падзяку за прадпрымаемыя акцыі ўсебаковай дапамогі беларускаму народу і садзейнічанне дзяржаў з удзелам механізмаў сістэмы ААН нашым уласным нацыянальным намаганням у пераадоленні вялікай бяды, гаворыцца ў Заяве, Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі глыбока верыць, што на новым этапе міжнароднага супрацоўніцтва ў справе вывучэння, аслаблення і мінімізацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы высокагуманістычныя палажэнні вышэйназванай рэзалюцыі знойдуць практычнае ўвасабленне з удзелам сусветнай супольнасці.

Мы спадзяёмся, што ў фокусе міжнароднай салідарнасці аб'ектыўна будуць знаходзіцца найбольш пацярпеўшыя раёны, іх жыхары, у першую чаргу дзеці, жанчыны, старыя і інваліды, тыя, хто прымаў удзел у лакалізацыі і абмежаванні вынікаў гэтай катастрофы. Парламентарыі Беларусі звяртаюцца да парламентаў і ўрадаў дзяржаў, міжурадавых і няўрадавых арганізацый, дзелавых, фінансавых, навуковых і рэлігійных кругоў, грамадскіх рухаў і фондаў, прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі, суайчыннікаў, да ўсіх людзей добрай волі без прамаруджання адгукнуцца на настойлівы заклік 45-й сесіі Генеральнай Асамблеі аб аказанні належнай маральнай падтрымкі і практычнай дапамогі людзям, якія аказаліся ў надзвычайнай сітуацыі.

Вярхоўны Савет Беларускай ССР заклікаў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый аб'явіць 26 красавіка Міжнародным днём прадухілення ядзерных і іншых прамыслова-тэхналагічных катастроф.

*«Я бачу, што Гарбачоў пайшоў сёння на тое, каб зрабіць паварот у патрэбным напрамку, гэта значыць у бок парадку і наступовасці, супраць неразбярыхі і анархіі. Я ведаю, што за гэтыя гады Міхаіл Сяргеевіч страціў многа каштоўнага часу. А[illegible] лепш позна, чым ніколі. Я не хачу ска[illegible] што перабудова была дарэмнай. Нават, азіраючыся назад на планы, якія мы намецілі разам у 1985 годзе, я павінен прызнаць, што няўдачы былі грандыёзныя.*

*Перайтварэнне грамадства ішло наперад, затое пераемнасці ў палітыцы і ідэалогіі нехапала. Разрыў пачаўся з эканамічнай рэформай. Яна нарадзілася на маіх вачах пад лозунгам «Больш сацыялізму і больш дэмакратыі», але затым без якога-небудзь дазваляючага гэта афіцыяльнага дакумента была перакрэслена ідэяй рынку, спачатку рэгулюемага, а затым і наогул свабоднага. Пры гэтым забыліся, што планавая эканоміка — вялікая заваёва чалавецтва. Тое ж самае хутка здарылася і з дэмакратызацыяй. Замест гэтага, аднак, мы адкрылі шлях анархіі, разбурыўшы самыя свяшчэнныя прынцыпы. Такім чынам, мы страцілі самую вялікую каштоўнасць СССР — веру людзей у будучыню. Наша грамадства было вельмі стабільным, без трывог і няпэўнасцей. Савецкі народ адчуваў сябе ў бяспецы, не ведаў страху перад заўтрашнім днём. Цяпер пачуццё заўтрашняга дня страчана, упэўненасць у ім знікла.*

*Няма ніякага сумнення ў тым, што нашы пазіцыі ў свеце аслаблены і сама бяспека СССР зменшылася. Усе скажуць: па віне гісторыі. І гэта праўда. Але я дадам да гэтага, што мы дапамаглі гісторыі. Мелі месца памылкі кіраўнікоў сацыялістычных краін, памылкі перабудовы і падрыўныя дзеянні Захаду».*

*(З інтэрв'ю Ягора ЛІГАЧОВА італьянскай газеце «Стампа»).*

ДАБРАЧЫННАСЦЬ ДЛЯ ЗЛАЧЫНЦЫ

## КАМІТЭТ ПАДКОРМКІ СЯМЁНАВА

Летам мінулага года «свавольнік» Дзіма Сямёнаў пад пагрозай выбуху ўгнаў самалёт з Мінска ў Швецыю. Шведскія ўлады пасля доўгага аналізу гэтага пірацкага акта выдалі паветранага злачынцу, навучэнца прафесійна-тэхнічнага вучылішча, савецкаму боку. Суд, які адбыўся ў Мінску, па справядлівасці адмераў Д. Сямёнаву некалькі гадоў пазбаўлення волі з утрыманнем у калоніі строгага рэжыму.

Але ў Швецыі знайшліся «дабрачынцы», якія пашкадавалі «паветранага пірата» і з рознымі «ласункамі» зачасцілі да яго ў госці ў Віцебск, дзе Д. Сямёнаў адбывае пакаранне. Створаны нават «Камітэт у абарону Сямёнава». Нядаўна яго генеральны сакратар пан Ліндберг прывёз у Віцебск цэлы аўтафургон для свайго падапечнага. Усяго каля 20 тон прадуктаў, медыкаментаў, вітамінаў, ласункаў, чаю, розных бытавых прыбораў. Ды падарункі не былі прыняты.

У абласным Савеце, куды расчараваныя дабрадзеі звярнуліся за садзейнічаннем, тактоўна падзякавалі за ўвагу да людзей з няпростым лёсам, але таксама ўстрымаліся ад крокаў, якія стварылі б злачынцу рэжым найбольшага спрыяння ў параўнанні з законапаслухмянымі грамадзянамі. І прапанавалі іншыя адрасы: дзіцячыя дамы, дамы састарэлых, таварыствы інвалідаў, Чырвонага Крыжа...

— А я не ўяўляю сабе іншага адраса, чым той, што ўказаны ў суправаджальных дакументах, — настойваў Свет Ліндберг.

Незадаволеныя шведскія госці пасля ўпартага дамагання праз некалькі дзён разгрузілі свой фургон на адным са складаў і адбылі дамоў, прадаставіўшы мясцовым уладам самім вырашаць, каму патрэбна дапамога.

Яе ўжо размеркавалі па школах-інтэрнатах Віцебшчыны.

ВУЧАЦЦА ГІМНАЗІСТЫ



**По гімназічнай праграме вучацца старшакласнікі ў сярэдняй школе № 14 Брэста. У спецыялізаваныя класы набіраюць вучняў у адпаведнасці з іх схільнасцямі. Дзеці ўдасканальваюць свае веды ў філалогіі, псіхалогіі, фізіцы, матэматыцы, хіміі, біялогіі. Гэтым дысцыплінам удзяляецца ў працэсе вучобы асаблівая ўвага. Для тых, хто паспяхова закончыць гімназічны курс, выпускныя экзамены адначасова могуць стаць уступнымі ў некаторыя брэсцкія вышэйшыя навучальныя ўстановы.**

**НА ЗДЫМКАХ: вось так незвычайна праходзяць урокі літаратуры ў адзінаццатым класе. Раман «Злачынства і пакаранне» Ф. Дастаеўскага інсцэніраваны самімі вучнямі; урок англійскай мовы вядзе Ірына МАКАРЭВІЧ.**




МІЖНАРОДНАЯ ВЫСТАЎКА

# ЗНАЙСЦІ ПАРТНЁРАЎ

Польскія фірмы — частыя госці выставачнага комплексу «Мінскэкспа». І ў гэтым ёсць свая заканамернасць: блізкасць граніц, падобныя шляхі развіцця двух народаў з іх памылкамі і эканамічнымі цяжкасцямі, крызісы. Вопыт суседа ў многім падказвае нам выйсце са складанага становішча, у якім цяпер аказаліся мы.

Арганізоўваючы «Прамэкспа», польскія фірмы мелі на ўвазе знайсці ў Беларусі партнёраў для дзелавога супрацоўніцтва, рынак збыту сваёй прадукцыі, стварыць сумесныя прадпрыемствы.

Натуральна, узнікае пытанне, а ці па таму адрасу звярнуліся польскія бізнесмены? Нашы прадпрыемствы не ў стане набыць прапанаваныя тэхналогіі ці машыны з-за адсутнасці валюты, у такім жа становішчы аказаліся і гандлёвыя арганізацыі рэспублікі. На даным этапе забаронены ў нас і бартэрныя здзелкі. Дык ці дасягне сваёй мэты гэтая выстаўка?

Польскі бок у асноўным у пройгрышы не аказаўся, хаця і не ўсе фірмы паехалі з Мінска задаволенымі.

— Вядома, мы хацелі б прадаваць свае тавары за сыравіну, беларускія хімічныя вырабы, — казаў прадстаўнік фірмы «Прыстан», якая шые адзенне, Мечыслаў Строжэк. — Але ў Беларусі няма бартэрных здзелак. Тады мы хацелі б адкрыць у вас свае магазіны і прадаваць тавары не за валюту, а за савецкія рублі. І гэтыя грошы застануцца ў Саюзе. За кошт іх палякі мелі б магчымасць рабіць турыстычныя паездкі.

Здаецца, у такой складанай сітуацыі і на самай справе слушная прапанова. Хаця ў гутарцы са спецыялістамі беларускіх гандлёвых арганізацый выказвалася думка, што такія магазіны могуць проста прагарэць, і вось чаму.

— У тых магазінах, — каменціруе таваравед з Мінска Тацццяна Кавалёва, — палякі хочуць прадава свае вырабы па вельмі высокай цане. Напрыклад, польскія тэлевізары. А хто іх у нас купіць, калі цана будзе такой жа, як на японскія? Ды і лепей набыць нават мінскія «Гарызонты» — больш надзейныя, іх і адрамантаваць прасцей.

Знаёмячыся з экспанатамі, звяртаем увагу яшчэ на адну дэталь. Многія фірмы ўдзельнічалі на выстаўцы ўпершыню. Часам яны і не ўяўлялі, што выпускаецца прамысловымі прадпрыемствамі рэспублікі. Ці не таму некаторыя з іх дэманстравалі далёка не лепшыя сусветныя ўзоры.

Эдуард Петухоў працуе ў лабараторыі праблем надзейнасці і даўгавечнасці дэталей АН БССР. Яго калектыў курыруе станкабудаўнічы завод імя Кірава ў Мінску. Спецыялізуецца на распрацоўцы для гэтага прадпрыемства вузлоў з гідраўлічным і пнеўматычным прывадам.

Знаёмствам з экспанатамі адной з польскіх фірм, якая выпускае пнеўматыку, Эдуард Аляксандравіч застаўся незадаволеным.

— Тут я бачу вырабы ўчарашняга дня, — сказаў ён, — састарэлыя, па нашых мерках, узоры. Для беларускай вытворчасці калектыў завода ўжо сёння выпускае пнеўматыку значна лепшых канструкцый, боль універсальную.

Як цікавы экспанат можна ацаніць, у першую чаргу, прэс-устаноўку для вытворчасці будаўнічых пліт з драўляных адходаў. Пліты могуць скарыстоўвацца для ўзвядзення дамоў невялікай паверхавасці, яны недарагія. І таму з прадстаўнікамі завода, якія прыехалі на выстаўку з узорам устаноўкі, ахвотна заключылі папярэднія кантракты і кааператывы, і будаўнічыя арганізацыі Беларусі.

З задавальненнем затрымліваліся наведвальнікі ля стэндаў з вырабамі са шкла, камп'ютэрамі, магнітафонамі, абуткам.

Што тычыцца кантрактаў, то іх заключана было параўнальна няшмат. Не можа не здзівіць такі факт, што гэта адна з выставак, дзе прысутнічала надзвычай мала беларускіх спецыялістаў. Ды і тыя не вельмі спяшаліся заключаць кантракты, чаго нельга сказаць аб гасцях з іншых рэспублік. Тыя, як кажуць, у шапку не спалі. Прадстаўнікі з далёкай Арменіі, з Таганрога і іншых месцаў, здаецца, гатовы былі купіць усё, што мелася на выстаўцы. Мімволі падумалася: а ці не спознягца беларусы, ці не пашкадуюць, што нешта каштоўнае перахапілі ў іх? А можа частыя выстаўкі, якія праводзяцца ў нашым горадзе, ужо і не выклікаюць такога дзелавога апетыту?..

І вельмі шкада, што нашы кааператывы не скарысталі магчымасць павучыцца, пераняць вопыт. Як справядліва заўважылі прадстаўнікі польскіх фірм, для будучых бізнесменаў гэта выстаўка стала б добрай школай для наладжвання спраў. Калі заглянуць глыбей, то фірмы з Польшчы якраз і ёсць кааператывы, невялікія прадпрыемствы, дзе працуе ад 12 да 450 чалавек.

І апошняе. Прыемным сюрпрызам з'явілася ініцыятыва некаторых фірм, якія наладзілі продаж экспанатаў. Так, наведвальнікі выстаўкі змаглі набыць насенне гароднiны і кветак.

Наступная выстаўка пройдзе таксама ў лютым. І зноў Мінск чакае гасцей з Польшчы. Цяпер ужо будуць удзельнічаць фірмы «Партнёра». Дарэчы, яны добра знаёмыя мінчанам, апошні раз выстаўляліся летась у кастрычніку.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

ЯКАЯ РЭАЛЬНАЯ СУМА ДЗЯРЖАЎНАГА ДОЎГУ СССР?

# НЕ РАСКРЫВАЮЧЫ ТАЙНАЎ...

Памер сённяшняга дэфіцыту саюзнага бюджэту аб'яўлены і зацверджаны Вярхоўным Саветам СССР у суме 26,7 мільярда рублёў. Гэта далёка ад рэчаіснасці. Возьмем толькі некалькі артыкулаў закона, не раскрываючы «дзяржаўных тайнаў», але прытрымліваючыся здаровага сэнсу.

Пасля года дыскусій пазыкі Дзяржбанка СССР былі вынесены нарэшце з даходнай часткі і паказаны як сродак пакрыцця існуючага дэфіцыту. Прынятыя ў свеце парадкі сталі нормай і для нас. Што ж тычыцца замежных пазык, то іх традыцыйна ўтаілі, пакінуўшы ў артыкуле «знешнеэканамічная дзейнасць». Такім чынам, у другім выпадку адразу забілі двух зайцоў: з аднаго боку, узнялі на шчыт усяго толькі бачнасць большай эфектыўнасці нашых знешнеэканамічных сувязей, з другога — «зменшылі» агульны памер дэфіцыту. Гэта ж абсурд. Атрымліваецца: чым больш урад пазычае за мяжой, тым лепш працуюць знешнеэканамічныя ведамствы. Але ж даўгі аддаваць трэба.

За гады перабудовы мы пазычылі больш, чым за ўсю папярэднюю гісторыю краіны. Гэта яшчэ адаб'ецца на народнай гаспадарцы. Неабходнасць пагашэння пазык на многія гады адсуне ўздым эканомікі.

Паводле ўскосных ацэнак, урад спадзяецца ў будучым годзе атрымаць 10 — 15 мільярдаў долараў новых замежных крэдытаў. Хоць у сённяшняй палітычнай сітуацыі гэта даволі праблематычна, тым не менш з даходнай часткі дадзеную суму неабходна выключыць, а памер дэфіцыту — павялічыць. Улічваючы сённяшні камерцыйны курс рубля (1,5 рубля за долар), велічыня гэтых пазык можа скласці 15 — 23 мільярды рублёў. Дэфіцыт бюджэту, такім чынам, толькі з-за ўнясення карэктываў па адным пункце зрасце ў 1,5 — 2 разы.

Заслугоўвае ўвагі і крыніца дапамогі замежным дзяржавам, якая традыцыйна падвяргалася нападкам з боку дэпутатаў усіх узроўняў. У бюджэце расходы на аказанне бясплатнай дапамогі вызначаны ў размеры 400 мільёнаў рублёў. У параўнанні з мінулым годам адбылося прыкметнае зніжэнне. Але ўся справа ў тым, што значная частка дапамогі ажыццяўляецца і па іншых пунктах, у прыватнасці па пункту «скідкі-надбаўкі да знешнегандлёвых цэн». Ён вядзецца выключна Міністэрствам знешнеэканамічных сувязей СССР і трапляе ў бюджэтную статыстыку адзіным нерасшыфраваным радком. Вядома, што менавіта з гэтых крыніц фінансаваліся, напрыклад, мільярдныя датацыі на кубінскі цукар. Не сакрэт, што ў бліжэйшыя гады давядзецца спісаць на некалькі дзесяткаў мільярдаў прадастаўленых Савецкім Саюзам замежных пазык, паколькі большасць нашых даўжнікоў, у прыватнасці з краін, што сталі на шлях развіцця, не могуць іх вярнуць. Так што і ў лічбы аб замежнай дапамозе, якая прадстаўлена Вярхоўнаму Савету і адобрана ім, не хапае некалькі нулёў...

У бюджэце таксама не прыводзяцца даныя аб плацяжах па абслугоўванню знешняга доўгу. Аднак вядома, што яны вылічаны па афіцыйнаму курсу рубля (каля 55 капеек за долар). Гэты курс пры практычных разліках не мае, на жаль, прымянення. Выкарыстоўваецца альбо камерцыйны, альбо рыначны (больш за 20 рублёў за долар). Хаця прымяненне таго ці іншага не ўплывае на памер саміх плацяжоў, якія ажыццяўляюцца ў цвёрдай валюце, тым не меш рэальны курс ілюструе, у што абыходзіцца народнай гаспадарцы выплат[а] даўгоў. Паводле самых сціплы[х] ацэнак, сума даўгоў па камерцыйнаму курсу роўная палавіне ўсіх расходаў на фінансаванне народнай гаспадаркі!

Вярхоўны Савет СССР, як вядома, вызначыў мяжу сумы знешняй запазычанасці ў 3[...] мільярдаў рублёў, таксама па афіцыйнаму курсу. Па камерцыйнаму ж яна будзе роўная больш за 100 мільярдаў. Агульная ж сума дзяржаўнага доўгу складзе каля 700 мільярдаў рублёў, ці амаль дзве трэція валавога нацыянальнага прадукту краіны...

Такая рэальнасць. Рэальнасць сумная. Гэта, аднак, не значыць, што нельга паправіць справу. Але для гэтага трэба перш за ўсё ведаць становішча, ведаць праўду і ўжо на падставе цвярозага разліку вырашаць, як, куды і з кім ісці.

**Барыс СЯРГЕЕЎ,**
**дырэктар Упраўлення эканамічнага аналізу інфармацыі Міжгаліновага камерцыйнага банка развіцця аптовага гандлю.**

МАРАЛЬ ДЗЯЛКОЎ

# БІЗНЕС НА ЧАРНОБЫЛІ

26 красавіка 1990 года, у дзень чацвёртай гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС, Цэнтральнае тэлебачанне правяло тэлемарафон. З усіх куткоў Саюза і зарубежжа ў скарбонку тэлемарафона пацяклі грашовыя ручайкі. Нават гамяльчане пералічылі на рахунак тэлемарафона «Чарнобыль» 714 тысяч рублёў.

Усяго марафон сабраў больш за 90 мільёнаў рублёў, а таксама 566 тысяч — у інвалюце.

Але людзі, для якіх збіралася гэтая дапамога, так і не ўбачылі яе. Толькі пасля звароту да Прэзідэнта СССР, нарэшце, удалося высветліць, куды, у чые рукі трапілі народныя грошы. Аказваецца, па незразумеламу праву іх прысвоіла міжнародная гуманітарная няўрадавая арганізацыя «Чарнобыль—дапамога». А яна дзейнічае па прынцыпу: каму хочам, таму і даём. Гамяльчане ж ад гэтага багатага пірага атрымалі адны слёзы — нават не вярнулі ім тых грошай, што былі пераведзены ад Гомельшчыны на тэлемарафон.

У апошні час усё больш і больш гучыць заклікаў аб усенароднай дапамозе пацярпеўшым. Нізкі паклон тым, хто шчыра жадае гэтага! Але жыццё пераконвае, што большасць з новаўтвораных таварыстваў клапоцяцца перш за ўсё аб сваіх інтарэсах, працуюць, што называецца, «на публіку».

СЕЛЯНІН НА СВАЁЙ ЗЯМЛІ

# «КУЛАКІ» З ЗАГОР'Я

**Дзяржаўны акт на права карыстання зямлёй Мікалаю Скурчаеву ўручалі ва ўрачыстай абстаноўцы. Як-ніяк першы ў раёне фермер узяў у вечнае карыстанне 23 гектары зямлі.**

**Любві да справы і працавітасці Скурчаевым не займаць. У залеташні год здала сям'я дзяржаве каля 12 тон мяса, 38 тон малака. Нядрэнна папрацавалі і летась.**

**Гаспадарка ў Скурчаевых пакуль нібыта і невялікая: паўтара дзесятка кароў, дваццаць цялят. Аднак цяжкасцей многа, можа аж занадта. З-за недахопу кармоў трэба было б дзесятак бычкоў датэрмінова здаць. Але куды! Нідзе не бяруць. Няўжо мяса ўжо нікому не патрэбна! Пры сённяшніх пустых магазінах і бясконцых чэргах!**

**З вялікай цяжкасцю, пераплаціўшы ўдвая, набыў Мікалай Фёдаравіч трактар. Тэхнічны догляд машыне патрэбны кваліфікаваны. І з гэтым — таксама праблема. Ды і землякі не вельмі добразычліва глядзяць на новаспечаных «кулакоў». Узяць прыклад са Скурчаевых у Загор'і пакуль ніхто не асмельваецца, а вось папляткарыць, што і бульбу, маўляў, не тады пасадзілі, і сена не так нарыхтавалі, і ўвогуле паразважаць, калі ж Скурчаевы «ў трубу вылецяць», многія ўмеюць і займаюцца гэтым ахвотна.**

**Так, у любой справе піянерам быць нялёгка. Можа, таму пакуль толькі пяць сям'яў у Светлагорскім раёне вырашылі стаць фермерамі. Трэба прызнаць, што ў старшыні РАПА А. Астрэйкі і яго намесніка Я. Давыдовіча яны заўсёды знаходзяць разуменне і падтрымку. Магчыма, будучыня сельскай гаспадаркі і не за фермерствам, гавораць спецыялісты, але без такіх людзей, якія любяць зямлю і гатовы самаахвярна працаваць на ёй, наўрад ці можна накарміць народ.**

**Ці разумеюць гэта тыя, хто кідае ўслед Скурчаеву і такім, як ён, працаўнікам, злоснае слоўца «кулак», што выплыла з небыцця! Як жа знявечаны душы нашых сялян...**

**НА ЗДЫМКАХ: Мікалай СКУРЧАЕЎ; нялёгка быць жонкай фермера; ці захоча Коля пайсці дарогай бацькі!..**

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.**

## *ПРАЧЫТАЎШЫ Ў ВАШАЙ ГАЗЕЦЕ...*

Паважаная рэдакцыя!

Мы, беларусы працоўнай Магніткі, прачытаўшы ў вашай газеце ад 27 верасня 1990 года публіцыю Міхася Расевіча з Вільні аб нахабных паводзінах новых літоўскіх «гаспадароў» на Віленшчыне, не можам маўчаць і цалкам згаджаемся з ім. Мы заклікаем беларусаў, якія неабыякава ставяцца да лёсу нашае Бацькаўшчыны, узняць свой голас пратэсту і патрабаваць ад нашага ўраду, які так рашуча выставіў тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Літвы і потым так нечакана заціх, каб пачаў нарэшце перагаворы з Літвой. Колькі можна чакаць? Перагаворы Літвы з Крамлём вядуцца. Чаму няма нашага прадстаўніка? А то, чаго добрага, за нашай спіной яшчэ што-небудзь аддадуць (напрыклад, Гродзенскую альбо Віцебскую вобласці). У наш час нікому нельга верыць. Хопіць нас шкуматаць.

...Па радыё перадаюць аб трагічных падзеях у Літве, тым не менш Беларусь павінна падумаць аб сваіх гістарычных землях.

Гэта подпісы людзей — выхадцаў з Беларусі ад імя вельмі многіх, ім не ўсё роўна, як пойдуць справы на нашай Радзіме.

**Алесь ДВОЯЖАНАЎ.**

P. S. У нас тут ёсць дзве вёскі цалкам беларускія, калі раптам спатрэбяцца подпісы, дабавім.

*ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ*

# АПАЭТЫЗАВАЦЬ? НЕ, ДАСЛЕДАВАЦЬ!

**У папярэднім нумары «Голасу Радзімы» мы пачалі інтэрв'ю са старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН БССР, кандыдатам гістарычных навук Уладзімірам КУЗЬМЕНКАМ аб праблемах даследавання Вялікай Айчыннай вайны. Сёння — працяг гутаркі з вучоным.**

Кадравыя камандзіры і палітработнікі, усе іншыя асобы, што прайшлі службу ў арміі, добра разумелі неабходнасць арганізацыі партызанскай дзейнасці ў адпаведнасці з патрабаваннямі ваеннай навукі. З першых дзён свайго знаходжання ў партызанскіх атрадах і брыгадах ваеннаслужачыя актыўна ўключаліся ў работу па ўмацаванню дысцыпліны ў радах партызан, пабудове ўнутранага распарадку жыцця партызанскіх лагераў па воінскіх статутах таго часу, арганізацыі зладжанага функцыяніравання партызанскіх штабоў, разведкі і контрразведкі, іншых службаў забеспячэння баявой дзейнасці. Спецыяльныя веды і вопыт ваеннаслужачых шырока выкарыстоўваліся ў будаўніцтве і абслугоўванні партызанскіх аэрадромаў, абсталяванні месцаў стаянак і баз, агнявых пазіцый, загарод і да т.п. Так, напрыклад, будаўніцтва аэрадрома ў Клічаўскай зоне і яго падрыхтоўка да прыёму першых савецкіх самалётаў з-за лініі фронта летам 1942 года праходзілі пад кіраўніцтвам афіцэраў-авіятараў, вылучаных камандаваннем партызанскіх атрадаў. З асяроддзя ваеннаслужачых вылучыліся таксама дзесяткі выдатных партызанскіх майстроў-збройнікаў, якія адыгралі вялікую ролю ў забеспячэнні народных мсціўцаў надзейна дзеючым стралковым узбраеннем і падрыўной тэхнікай. Дзякуючы ваеннаслужачым, з'явілася ў партызан і свая артылерыя (скарыстоўваліся гарматы, кінутыя летам 1941 года пры адступленні, а таксама трафейныя). Іх веды ў галіне тэхнікі прыносілі адчувальную карысць у наладжванні радыёсувязі, пры вырашэнні розных іншых праблем партызанскага жыцця.

Для павышэння эфектыўнасці баявой дзейнасці партызан вялікае значэнне мела работа па навучанню асабовага складу атрадаў і брыгад ваеннай справе. Ёю, як правіла, кіравалі кадравыя армейскія камандзіры і палітработнікі. Беручы сабе на дапамогу радавы і сяржанцкі састаў, які аказаўся разам з імі на акупіраванай тэрыторыі, а таксама партызан, што прайшлі ў свой час тэрміновую службу ў арміі, яны змаглі перадаць неабходныя ваенныя веды вельмі многім народным мсціўцам, падрыхтаваць іх да баявых дзеянняў у самых розных умовах. Рашаючую ролю савецкіх ваенных спецыялістаў у баявым абучэнні партызан Беларусі адзначала і нямецкае камандаванне. Так, камандуючы ахоўных войскаў і начальнік тылавога раёна групы армій «Цэнтр» генерал пяхоты фон Шэнкендорф ужо ў красавіку 1942 года ў запыце адносна вылучэння сіл для барацьбы супраць партызан пісаў: «Выяўлена, што ва ўсіх партызанскіх раёнах маецца ваеннае кіраўніцтва, што ў партызанскіх атрадах праводзіцца ваеннае абучэнне і яны маюць арганізацыю па тыпу вайсковых часцей... Ваеннае кіраўніцтва партызан... ажыццяўляе планамернае абучэнне. Таму партызаны, нават апранутыя ў цывільнае адзенне, у поўнай меры валодаюць баяздольнасцю рэгулярных часцей...»

Фактычныя даныя, атрыманыя пры вывучэнні крыніц па гісторыі партызанскага руху ў Беларусі, даюць падставы сцвярджаць, што абучэнне партызан ваеннай справе ажыццяўлялася паўсюдна і на працягу ўсяго часу барацьбы з акупантамі. Ваеннаслужачыя вучылі народных мсціўцаў валодаць стралковай зброяй і іншай баявой тэхнікай, падрыўной справе, тапаграфіі і арыентаванню, нясенню каравульнай службы, тактыцы баявых дзеянняў і да т.п. Вялікую ролю адыгралі ваенныя спецыялісты, якія апынуліся ў варожым тыле, у падрыхтоўцы малодшага і сярэдняга каманднага саставу партызанскіх фарміраванняў. У спецыяльных школах, арганізаваных у многіх атрадах і брыгадах, яны перадавалі партызанам, якія праходзілі тут абучэнне, веды, неабходныя для кіравання аддзяленнем, узводам і ротай у баі, рыхтавалі з іх кваліфікаваных камандзіраў.

Савецкія ваеннаслужачыя, якія сталі партызанамі, праявілі масавы гераізм і самаадданасць, высокае пачуццё абавязку перад Радзімай.

**— Па-мойму, гэта натуральна: людзі ваенныя, якія прымалі прысягу, аказаліся вернымі ёй і ў варожым тыле. Цяпер мне хацелася б пачуць ад вас, Уладзімір Іванавіч, адказ на такое пытанне: ці варта была барацьба тых ахвяр, якія панесла мірнае насельніцтва Беларусі! Даводзілася, і не раз, чытаць, напрыклад, у беларускай прэсе за мяжой, што акцыі партызан супраць ворага толькі падштурхнулі акупантаў да жорсткіх, крайніх мер: спаленыя вёскі, закатаваныя людзі. І што, маўляў, цана партызанскай барацьбы, «інспіраванай з Масквы», аказалася занадта высокай...**

— Я ўжо закранаў у нейкай ступені гэтае пытанне. Так, насельніцтва Беларусі прыняло самы актыўны ўдзел у барацьбе з захопнікамі, праявіла непакорнасць. Аднак наіўна думаць, што пакорлівасць перад ворагам дазволіла б выжыць большай колькасці людзей. Вышэйшае кіраўніцтва фашысцкай Германіі ў дырэктывах войскам і акупацыйнай адміністрацыі неаднаразова падкрэслівала, што супраціўленне насельніцтва дае толькі зручную нагоду для разгортвання намечаных рэпрэсіўных акцый. Дакументальна пацверджаныя планы гітлераўскай клікі па знішчэннню жыхароў захопленых абласцей, распрацаваныя яшчэ да пачатку вайны, ашаламляюць. Размова ішла аб знішчэнні многіх мільёнаў савецкіх грамадзян, цэлых этнічных адзінак. І хаця гэтыя планы не афішыраваліся, трымаліся ў сакрэце, людзі ў акупіраваных раёнах, відаць, на інстынктыўна - эмацыянальным узроўні здагадваліся пра іх, разумелі, што выратаванне — у барацьбе. Фарміраванню такога разумення садзейнічала і масава-агітацыйная дзейнасць антыфашысцкіх падпольных арганізацый. Удзельнікі супраціўлення аказалі значную дапамогу савецкім войскам, якія змагаліся на франтах, у немалой ступені садзейнічалі таму, што шалі хіснуліся на карысць Чырвонай Арміі. А каб здарылася інакш? Лёс, які чакаў пераможаны народ, нам вядомы. Аб «інспіраванні з Масквы». Безумоўна, арганізацыйныя намаганні па разгортванню партызанскага руху ў тыле праціўніка рабіліся з-за лініі фронта вялікія. Але ж гэта натуральна для таго, хто ваюе. Аднак «загнаць сілком» у партызанскія атрады ва ўмовах варожай акупацыі звыш 300 тысяч чалавек наўрад ці каму-небудзь удалося б. Патрыятычны парыў мас, жаданне насельніцтва пазбавіцца ад іншаземных, чужамоўных захопнікаў, у тым ліку і шляхам узброенай барацьбы, бясспрэчныя.

**— Уладзімір Іванавіч, давайце паспрабуем закрануць такую з'яву, як згуртаванасць людзей розных нацыянальнасцей у барацьбе супраць акупантаў. Ці ўносіць час нейкія карэктывы ў тое разуменне гэтага пытання, якое існавала ў мінулым! Ці была такая згуртаванасць на самай справе!**

— Безумоўна, такая з'ява існавала. Іншая справа, што доўгія гады мы асвятлялі яе трафарэтна, не ўнікаючы, як і ў іншых выпадках, ва ўсю складанасць сітуацыі, без дастатковага разумення працэсаў (у тым ліку і нацыянальных), што праходзілі ў краіне ў перадваенныя гады. Сёння мы ўспрымаем савецкае грамадства напярэдадні вайны глыбока хворым. Аб дэфармацыях, што адбыліся, злачынствах сталінскага рэжыму ўжо дастаткова сказана на ўсіх узроўнях. І калі гэтая інфармацыя для нас адносна нядаўна была недаступнай, схаванай, то для кіраўніцтва нацысцкай Германіі 50 гадоў назад яна не была сакрэтам. Разлік ворага сутыкнуць між сабой народы нашай краіны не ў апошнюю чаргу грунтаваўся на аналізе грубых памылак, рэпрэсіўных дзеянняў тагачаснага кіраўніцтва СССР у галіне нацыянальнай палітыкі. Захапіўшы Беларусь, гітлераўцы ўстанавілі на яе тэрыторыі жорсткі акупацыйны рэжым, паўсюдна здзяйснялі жудасныя расправы над мірнымі жыхарамі і ваеннапалоннымі. Найбольш дзейная ў палітычных адносінах частка насельніцтва (камуністы, савецкі і камсамольскі актыў) знішчаліся без адрознення нацыянальнасцей у першую чаргу. Кіруючыся расавай тэорыяй, фашысты з першых дзён акупацыі разгарнулі таксама масавае знішчэнне яўрэяў і цыган. У большасці славянскага насельніцтва акупантамі спачатку падтрымліваліся ілюзіі адноснай бяспекі (у выпадку пакорлівасці). Хаця і яго чакаў не лепшы лёс. Згодна з генеральным планам «Ост», які захоўваўся ў глыбокай тайне, нацысты збіраліся пакінуць для анямечвання і выкарыстання ў якасці грубой рабочай сілы толькі 25 працэнтаў беларусаў. Рэалізаваць поўнасцю гэты план гітлераўцам перашкодзіў толькі неспрыяльны для іх ход вайны. Маючы свае мэты, акупанты заахвочвалі і ўсяляк распальвалі міжнацыянальную варожасць. У нечым яны, вядома, дабіваліся поспеху. У прыватнасці, паспрабавалі зацвердзіць (з дапамогай прэсы і вуснай прапаганды калабарантаў) у свядомасці нейкай часткі насельніцтва (у першую чаргу ў Заходняй Беларусі) вобраз сталінізму як яўрэйска-рускай з'явы. Нагадаю і пра пэўныя непаразуменні (аж да ўзброеных сутыкненняў), што ўзніклі ва ўзаемаадносінах савецкіх партызан і польскіх фарміраванняў Арміі Краёвай у той жа Заходняй Беларусі. Аднак па вялікаму рахунку спробы захопнікаў «разыграць нацыянальную карту» пацярпелі правал. У сувязі з агульнай небяспекай сярод большасці савецкіх людзей, якія апынуліся ў акупіраванай Беларусі, праявілася і перамагло імкненне да адзінства і згуртаванасці. У іх была адзіная мэта—знішчыць гітлерызм, абараніць свае народы ад заняволення і знішчэння, выратаваць Радзіму. Дружба патрыётаў розных нацыянальнасцей у поўнай меры праявілася ўжо летам 1941 года, пры адступленні нашых войск. Жыхары рэспублікі, рызыкуючы жыццём, аказвалі ўсямерную дапамогу тым, хто трапіў у бяду, раненым і хворым савецкім воінам. «Беларусы, — успамінаюць былыя ваеннаслужачыя, удзельнікі тых падзей, — нярэдка гінулі самі, але салдат і афіцэраў Чырвонай Арміі на расправу ворагу не выдавалі. Нікога. Ні буратаў, ні карэлаў, ні чэркесаў, ні удмуртаў. Аберагалі ўсіх». Многія выратаваныя байцы і камандзіры змаглі потым перабрацца праз лінію фронта і ўліцца ў Чырвоную Армію, а тыя, хто застаўся, папоўнілі рады партызан Беларусі. Насельніцтва рэспублікі на працягу ўсяго перыяду акупацыі аказвала таксама самаадданую дапамогу ваеннапалонным, якія знаходзіліся ў фашысцкіх канцлагерах.

Інтэрнацыянальным па свайму характару быў партызанскі рух у Беларусі. Гісторыкамі гэта паказана дакладна. Нагадаю пра некаторыя ключавыя моманты гэтай з'явы. Неаднароднасць насельніцтва Беларусі ў нацыянальных адносінах, уступленне ў атрады народных мсціўцаў воінаў Чырвонай Арміі, якія апынуліся на акупіраванай тэрыторыі, а таксама пасланцоў з савецкага тылу вызначылі многанацыянальнасць асабовага складу партызанскіх фарміраванняў рэспублікі. У радах народных мсціўцаў былі прадстаўнікі каля 70 нацый і народнасцей Савецкага Саюза. Паводле даных БШПР, беларусы складалі звыш 71 працэнта, рускія — больш 19, украінцы— каля 4 і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей — каля 6 працэнтаў ад агульнай колькасці партызан.

Дружба прадстаўнікоў розных народаў СССР, якія аб'ядналіся ў партызанскую армію, была змацавана сумесна пралітай крывёю, загартавалася ў баях з акупантамі. Гісторыя партызанскага руху на беларускай зямлі напоўнена мноствам прыкладаў узаемавыручкі і гераічнай згуртаванасці савецкіх людзей розных нацыянальнасцей, якія дзейнічалі поплеч на варожых камунікацыях і пры разгроме фашысцкіх гарнізонаў, у разведцы і пры адбіванні карных экспедыцый гітлераўцаў. Інтэрнацыянальны характар патрыятычнай барацьбы ў варожым тыле ярка праяўляўся і ў цесным баявым узаемадзеянні партызан Беларусі з «ляснымі салдатамі» суседніх рэспублік СССР. Праяўленнем згуртаванасці народаў Еўропы ў сумеснай барацьбе супраць фашызму быў удзел у савецкім партызанскім руху замежных грамадзян. Большасць з іх была насільна прывезена гітлераўцамі ў саставе воінскіх часцей і рабочых атрадаў.

---

**Працяг. Пачатак у № 7.**

**БЕЛАРУСЫ Ў АМЕРЫЦЫ**

## ДАВЕДНІК ПРА НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ ЗША

Як паведамляе газета нашых суайчыннікаў «Беларус» (Нью-Йорк), амерыканскае выдавецтва «Гейл» апублікавала даведнік «Крыніцы інфармацыі пра нацыянальнасці Злучаных Штатаў». У даведніку — звесткі пра блізу сотню нацыянальных групаў, у тым ліку і пра беларускую, пра якую не было асобнага артыкула ў папярэднім, першым выданні. У артыкуле пра беларусаў названы сем публікацый, з якіх можна даведацца больш пра Беларусь.

Даведнік інфармуе пра беларускія арганізацыі ў ЗША: Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага, Беларускую Нацыянальную Раду, БАЗА, Кангрэсавы Камітэт, жаноцкую арганізацыю ды іншыя, а таксама пра Місію БССР пры ААН.

Упершыню ў амерыканскім даведніку апісваюцца грамадскія цэнтры адпачынку: Бэлер-Менск у штаце Нью-Йорк, Полацак у Кліўлендзе.

У раздзеле пра культурныя і адукацыйныя арганізацыі згаданы: Беларускі Адукайцыйны і Дапамогавы Фонд у штаце Фларыда, Беларускае Мастацкае Таварыства ў Нью-Джэрсі, Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ў Нью-Йорку. Названы таксама жаноцкія ансамблі «Каліна» ў Саўт-Рыверы, «Васілёк» у Кліўлендзе.

**У ЛЮСТЭРКУ САЦЫЯЛОГІІ**

## НАСТРОЙ МІНЧАН

Даныя сацыялагічнага апытання паказваюць, што 90 працэнтаў мінчан адчуваюць сёння неспакой, няўпэўненасць, расчараванне, песімізм і апатыю. Толькі 10 працэнтаў (пераважна моладзь да 30 гадоў) сцвярджаюць, што яны поўныя надзей. Іх эмацыянальны стан тлумачыцца не столькі рэальнай сітуацыяй, колькі ўзроставымі асаблівасцямі.

Занепакоенасць і няўпэўненасць мінчан у заўтрашнім дні маюць аб'ектыўную аснову. У 46 працэнтаў сямей гараджан месячны даход не больш за 120 рублёў на аднаго чалавека, гэта значыць ніжэй за пражытачны мінімум. Сярод пенсіянераў гэтая колькасць павялічваецца да 58, а сярод маладых сем'яў — да 64. Толькі 3 працэнты мінчан не баяцца росту цэн.

Большасць апытаных звязвае рашэнне сваіх матэрыяльных праблем з прыняццем дзяржаўных мер па паляпшэнню жыцця грамадзян і іх сямей. Аднак існуючая рэальнасць і страта надзей на перамены да лепшага прывялі да таго, што кожны трэці працаздольны гараджанін для паляпшэння матэрыяльнага становішча (свайго і сям'і) гатовы быў бы выехаць па найму на часовую работу за мяжу. Сярод моладзі да 30 гадоў колькасць жадаючых працаваць за мяжой дасягнула 40 працэнтаў.

Іван САВЕРЧАНКА

# КАНЦЛЕР ЛЕЎ САПЕГА



**9**

**IV**

Восенню 1583 года, калі Леў Сапега, выконваючы сакратарскія абавязкі, знаходзіўся ў Кракаве пры двары Стафана Батуры, аб'яднаныя орды Асманскай імперыі ды крымскіх татараў напалі на паўднёвыя землі Рэчы Паспалітай. «Ад пана старасты камянецкага з Камянца-Падольскага, — спешна паведамляў Сапега Крыштофу Радзівілу ў Вільню, — прымчаўся ганец з весткаю, што туркі перапраўленіся цераз Дунай і сталі лагерам ля Камянца...»

Вялікае Княства і Польшча рыхтаваліся да паспалітага рушання. Каб засцерагчы ад небяспекі ўсходнія рубяжы Княства на перыяд вайны з паўднёвымі спрадвечнымі ворагамі, урад гаспадарства прыняў рашэнне любой цаною падпісаць мір з Маскоўскаю Руссю.

Ранняй вясной 1584 года рэчпаспалітае пасольства на чале з Львом Сапегам, якому тады яшчэ не споўнілася і 27 год, адпраўляецца ў Маскву да Івана IV. У склад пасольства ўваходзіла 275 чалавек. Апроч Сапегі ды пяці іншых дваранаў, у Маскву накіроўваліся 29 беларускіх купцоў, што на 177 вазах везлі свае тавары.

Для рускага манарха, па тагачаснаму звычаю, Леў Сапега вёз каштоўныя падарункі, ці, як яны тады называліся, «памінкі» — пародзістых коняў, залачоную збрую, пістолі, срэбныя кубкі, аздобленую карэту і інш. — ад дваранства, караля і вялікага князя Рэчы Паспалітай. Аднак Сапегу не ўдалося ўбачыцца з Іванам IV. Яшчэ ў дарозе, пад Мажайскам, паслоў сустрэў ганец з Масквы і перадаў рап-

**10**

тоўны і незразумелы напачатку загад — спыніцца і чакаць далейшых распараджэнняў. Прычыну затрымкі Сапегу не растлумачылі, адно толькі да пасольства прыставілі варту і забаранілі яго кіраўніку пісаць аб чым бы тое ні было ў Рэч Паспалітую.

Сярод паслоў расла трывога. Шырыліся розныя супярэчлівыя чуткі. Усе хваляваліся, адчуваючы, што здарылася нешта надзвычайнае. Але рэчпаспалітых паслоў працягвалі трымаць у няведанні. І толькі адзін з ахоўнікаў неяк выпадкова прагаварыўся аб смерці рускага манарха.

Праз нейкі час у Мажайск да Льва Сапегі прыйшоў новы загад — ехаць далей у Маскву.

Ля Масквы-ракі рэчпаспалітае пасольства сустрэлі два царскія прыставы з некалькімі сотнямі коннікаў і афіцыйна паведамілі Сапегу аб смерці 28 сакавіка 1584 года іхняга гаспадара Івана IV, а таксама аб узыходзе на рускі прастол ягонага сына — Фёдара Іванавіча, блаславёнага на царства бацькам перад адыходам у нябыт.

Па прыездзе ў Маскву Льва Сапегу пад ганаровым эскортам суправадзілі да пасольскай рэзідэнцыі, дзе некалькі дзён, нібы якога злачынцу, трымалі пад стражаю. Жахлівыя ўмовы, у якіх кіраўнік рэчпаспалітага пасольства апынуўся ў Маскве, ён апісаў пасля ў сваім справаздачным лісце. Вось толькі некалькі радкоў з яго: «Прыставы суправаджалі мяне аж да пасольскага двара. Тут мяне хавалі, не раўнуючы як нейкага вязня, нават у

**11**

плоце дзіркі пазатыкалі ды паставілі каравул, што сачыў за мною дзень і ноч...»

Першы прыём рэчпаспалітых паслоў рускімі баярамі адбыўся толькі 12 красавіка 1584 года. Леў Сапега нарэшце атрымаў магчымасць выказаць сваю незадаволенасць адносінамі да яго. Але на пратэст пасла ніхто не звярнуў асаблівай увагі: фанабэрыстасць ды пагарда да іншых народаў у Маскоўскай Русі жыла спрадвеку.

Першыя ўражанні Льва Сапегі ад сустрэч з рускімі баярамі былі не лепшымі. Ён увачавідкі пазнаёміўся з норавамі, што панавалі ў маскоўскім Крамлі, ды жахлівымі ўчынкамі баяраў, паміж якімі з узыходам на прастол новага цара яшчэ больш узрасла канкурэнцыя ды ўзаемная непрыязнасць. Кожны імкнуўся як мага вышэй узняцца па іерархічнай лесвіцы, стаць бліжэй да трона, набыць новыя прывілеі і землі.

Перад прыёмам Льва Сапегі рускія баяры, не зважаючы на прысутнасць замежных паслоў, страціўшы ўсялякі сорам, а мо і розум, мала не перарэзалі адзін аднаго за месца падчас перагавораў. Так і не знайшоўшы пагаднення, многія з іх пасля непрыстойных спрэчак, з брыдкай лаянкай і нечуванымі ўзаемнымі абразамі паехалі з Крамля. Такога Сапега яшчэ ніколі не бачыў. З рускага боку перамовіны засталіся весці толькі князь Фёдар Міхайлавіч Трубяцкі, Фёдар Барысавіч Гадуноў, а таксама Андрэй ды Васіль Шчалканавы, аўтарытэт якіх, здаецца, быў бясспрэчным.

З самага пачатку перагавораў Леў Сапега, як кіраўнік пасольства, апынуўся ў экстраар-

**12**

дынарным становішчы: усе граматы і лісты, падпісаныя Стафанам Батурам і замацаваныя пячаткамі Кароны ды Княства, адрасаваліся пакойнаму цару Івану IV. Цяпер жа, пасля яго раптоўнай смерці, якая захапіла рэчпаспалітых паслоў у дарозе, усё належала перарабіць ды перапісаць нанава. Для гэтага, пэўна ж, патрабаваўся час. Узнікла складаная, а як для Льва Сапегі, дык нават — драматычная сітуацыя. Надзеі на хуткае падпісанне міру[illegible]шыліся. Больш таго, з'явілася пагроза п[illegible]а зрыву перагавораў і вяртання назад з [illegible]устымі рукамі, бо кіраўнік пасольства не меў права без згоды з каралём і вялікім князем прадпрымаць штосьці самавольна. Але варочацца ні з чым, не падпісаўшы пагаднення з Маскоўскаю Руссю ў той час, калі на[illegible] Вялікім Княствам навісла страшная бяда, Л[illegible]апега не мог. Ён адчуваў асабістую адка[illegible]ць за лёс радзімы, выдатна ўсведамляючы, што ад вынікаў перагавораў шмат у чым залежыць яе будучыня.

Крытычная сітуацыя вымагала ад кіраўніка пасольства выключна абачлівых крокаў. Таму, калі рускія баяры пачалі ультыматыўна патрабаваць ад яго «справіць пасольства» да цара Фёдара, Сапега мусіў адмовіцца ад сустрэчы з манархам, настойліва дамагаючыся дазволу папярэдне накіраваць да караля і вялікага князя за новымі граматамі ды распараджэннямі. Пасля доўгай цяганіны, хаця і без вялікай ахвоты, баяры ўсё-такі далі яму магчымасць адправіць пасыльных у Рэч Паспалітую. Пачаліся доўгія дні чакання, трывожныя і небяспечныя...

У Маскве ў гэты час не сціхалі баярскія

**13**

звадкі. Стральцы, падбухтораныя Багданам Бельскім, аблажылі Крэмль, забілі князёў Мсціслаўскага ды Шуйскага. Папаўзлі чуткі, няйнакш пушчаныя баярамі, што сам Бельскі, а не баяры, хоча царскай крыві. Узбуджаны, ашалелы ад злобы натоўп гатовы быў расправіцца з любым, на каго яму ўкажуць. Аднаго слова хапіла б, каб накіраваць раз'юшаны люд на замежных паслоў. Вуліцы Масквы былі залітыя крывёю.

[illegible]а вяртанні пасыльных доўгачаканыя пера[illegible]ры ўзнавіліся. Леў Сапега сустрэўся з царом Фёдарам. Галоўным для яго цяпер было пераканаць нейкім чынам рускага манарха ды баяраў у неабходнасці і ўзаемнай карысці міру. Каб павялічыць свае шанцы на поспех, Леў Сапега скарыстаў стары, але надзвычай дзейс[illegible] ў тагачаснай міжнароднай палітыцы пры[illegible] наўмысля паведаміўшы цару аб падрых[illegible]цы турэцкага султана да вайны з Маскоўскаю Руссю і што апошні нібыта шукае сярод палякаў ды беларусаў саюзнікаў. Можа гэта ды яшчэ тое, што рускаму манарху, нядаўна заняўшаму царскі трон, карцела як мага хутчэй заняцца ўнутранымі праблемамі ды ўмацаваннем сваёй улады, спрыяла поспеху Сапегі. Праз некалькі дзён, пасля безвыніковых спрэчак з-за Ліфляндыі, паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскаю Руссю быў падпісаны дзесяцігадовы мір. Акрым таго, Леў Сапега дамогся ад Фёдара вызвалення з рускага палону, прычым—што самае дзіўнае— без усялякага выкупу, нешта 900 беларусаў. Няцяжка ўявіць радасць Льва Сапегі з гэтае нагоды, бо крыху раней ён у адным з лістоў да Стафана Батуры, просячы яго дазволу ўзняць на перагаво-

**14**

рах пытанне аб вызваленні суайчыннікаў, з болем пісаў: «Над імі трэба злітовацца. Я кожны дзень абліваюся слязьмі, калі чую іх енкі, хаця і далёка ад іх стаю».

Нечуваны поспех пасольства, асабліва сенсацыйнае рашэнне Фёдара адпусціць на волю палонных без звычайнага прад'яўлення вялікага рахунку, спарадзіла сярод палітычных колаў Еўропы супярэчлівыя чуткі ды стала прычынаю для самых разнастайных здагадак.

Па сцверджанні адных, новы рускі цар быў нікудышны палітык і нават — крыху не пры сваім розуме. Дарэчы, і Льву Сапегу Фёдар Іванавіч таксама падаўся прыдуркаватым, што пацвярджае яго ліст ад 10 ліпеня 1584 года да папскага легата Баланьецi, з якім ён дзяліўся сваімі ўражаннямі ад маскоўскага гаспадара. «Вялікі князь,— паведамляў Сапега,— малы ростам, гаворыць ён ціха і надта марудна. Розуму ў яго, здаецца, не багата, а іншыя кажуць — і зусім няма. Калі ён у час майго прыёму сядзеў на троне ў сваіх царскіх адзеннях, то, гледзячы на скіпетр ды дзяржаву, усё неяк па-вар'яцку ўсміхаўся».

Ці сапраўды Фёдар быў такім, якім яго абмаляваў Сапега? Невядома, бо паводле іншых гістарычных звестак, сын Івана IV сваёй вычурнай хітрасцю ды авантурызмам пераўзыходзіў нат бацьку, а яго паводзіны падчас афіцыйных прыёмаў — гэта не больш чым гульня, маскарад ды адмысловае ліцадзейства. Але, як бы тое ні было, станоўчыя вынікі перагавораў былі бясспрэчнымі, а ўнутрымаскоўскія праблемы ды балячкі, урэшце, мала хвалявалі Льва Сапегу.

**15**

Удалыя перагаворы прынеслі Сапегу славу выдатнага дыпламата. Стафан Батура прызначыў яму добрыя ўзнагароды — Слонімскае старэства, а з другога лютага 1585 года — пасаду падканцлера Вялікага Княства*.

**V**

Новая пасада дала Льву Сапегу выключныя магчымасці для здзяйснення яго даўнішняй задумы — стварэння магутнай беларускай дзяржавы, здольнай эканамічна і ваенна-палітычна супрацьстаяць знешнім ворагам, а таксама быць незалежнай ад саюзнай Польшчы. Аднак на гэтым шляху падканцлера чакалі сур'ёзныя выпрабаванні.

Ужо ў сакавіку 1585 года польскія магнаты пачалі атрымліваць каралеўскія прывілеі на землі Вялікага Княства, вернутыя беларускім рыцарствам падчас баталій з Маскоўскаю Руссю. Абураны дзеяннямі нахабных суседзяў і, як усё больш пераконваўся Сапега, не надта надзейных і шчырых саюзнікаў, ён з гневам асуджаў беспадстаўныя прэтэнзіі палякаў і даказваў абсалютнае права беларускага панства на набытыя тэрыторыі. «З таго часу, як пачалася вайна за Інфлянты,— пісаў падканцлер,—

* У 1584 годзе памёр вялікі гетман Княства Мікалай Радзівіл Руды, вялікагетманская булава перайшла да Астафія Валовіча. Канцлерскую пасаду заняў былы падканцлер Мікалай Крыштоф Радзівіл Пярун. Адпаведна на яго мейсца і быў прызначаны Леў Сапега.

**16**

палякі і гроша ломанага не далі нам у дапамогу. А цяпер, калі ўсё ідзе к канцу, то пан поляк імкнецца авалодаць Вялікімі Лукамі, Завалачам, Холмам... Яны нас хочуць адпіхнуць ня толькі ад завяванага намі цяпер, але і ад таго, што мы трымалі раней».

Як бачна, Леў Сапега быў далёкі ад таго, каб бараніць інтарэсы Польшчы, як тое сцвярджалі і працягваюць сцвярджаць рускія ды польскія гісторыкі. Наадварот, клапоцячыся пра беларускі народ, пашыраючы землі Княства, умацоўваючы яго межы, падканцлер кожны раз стрымліваў парыванні палякаў падпарадкаваць вялікакняскія землі ды асіміляваць беларусаў, няхай сабе і адносна мірным шляхам. Праўда, і падчас канфліктаў з палякамі ў 1585 годзе Леў Сапега, займаючыся міжнароднымі справамі, улічваючы канкрэтныя гістарычныя абставіны, нярэдка выступаў як прадстаўнік усяе федэрацыі — Рэчы Паспалітай, але, што вельмі істотна для разумення яго пазіцыі, ён пры гэтым заўсёды зыходзіў найперш з інтарэсаў Вялікага Княства, прымяраючы важнейшыя рашэнні да палітычных мэтаў свайго гаспадарства, узгадняючы іх з памкненнямі беларускае шляхты ды дваранаў. Разнастайныя гістарычныя дакументы, звязаныя з дзейнасцю Льва Сапегі, здаецца, уважліва вывучаныя аўтарам гэтых радкоў, дазваляюць адназначна сцвярджаць, што за ўсёй яго шматгадовай палітычнай чыннасцю не было ніводнага выпадку, каб інтарэсы Польшчы ці нават усяе Рэчы Паспалітай ён ставіў вышэй за ўласна вялікакняскія.

**Працяг. Пачатак у № 7.**

## З БЕЛАРУСКАГА НАДДЗВІННЯ Ў ЛАТВІІ

# САМОТНІК З-ПАД ІНДРЫ

Як вядома з друку, 19-я сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі стала сапраўдным святам для суайчыннікаў з многіх старонак нашай планеты. Для мяне так супала, што калі ў Мінску летась на пачатку верасня праходзілі ўрачыстасці ў гонар 500-гадовага юбілею Францішка Скарыны, з нашым першадрукаром — вочы ў вочы — я спаткаўся ў Чыкага. Гэта былі партрэты Ф. Скарыны, пісаныя Пётрам Мірановічам. У Амерыцы я прыкмеціў: хто б з беларусаў ні запрашаў у свой дом, у кожнага можна бачыць работы мастака Пётры Мірановіча. І ў цудоўным жытле Веры і Віктара Рамукоў на самым здатным месцы — работы гэтага мастака, які паходзіў родам з беларуска-латгальскага сумежжа.



Ён нарадзіўся пад Індраю (да 1920 года — Бальбінова) — у тагачасным Дрысенскім павеце Віцебскай губерні. Вучыўся ў Даўгаўпілскай (Дзвінскай) беларускай дзяржаўнай гімназіі, у 1935 годзе скончыў Латвійскую акадэмію мастацтваў; выкладаў, афармляў падручнікі. У савецкі час працаваў загадчыкам школы. Быць інспектарам беларускіх школ быў упрошаны ў часы гітлераўскай акупацыі.

Як паведамляў у беластоцкай «Ніве» Алесь Барскі, які гутарыў з мастаком у Нью-Йорку, П. Мірановіч у 1944 годзе паступіў у Венскую мастацкую акадэмію, арганізаваў там школу для беларускіх дзяцей. З 1950 года ён — у ЗША. Без сродкаў на існаванне, да 75-гадовага веку вымушаны быў зарабляць на пражыццё зусім не мастакоўскім заняткам.

Яшчэ ў Латвіі ў 1939 годзе П. Мірановіч абараніў дыпломную працу: «Снеданне ў беларускай хаце». Значнымі яго работамі з'яўляюцца такія, як «Зіма», «Бура», «Жытво», «Плытагоны», «Беларускія эмігранты», серыя партрэтаў.

Адлятаючы з Нью-Йорку, я паспеў толькі пазваніць яго сябру — спадару Францішку Бартулю, які згадзіўся завесці мяне да ўжо аслеплага мастака з-пад Індры. Але не было магчымасці наведаць у бурлівай Амерыцы свайго земляка. І вось прыйшла сумная вестка: не стала Пётры Мірановіча. Беларусь панесла яшчэ адну страту.



Зараз гляджу на яго творы, якія пашчасціла набыць пры розных варунках: «Возера Доўгае» — ва ўдавы рэжысёра Я. Камаржынскага ў Даўгаўпілсе. «Беларусачка» — у Рызе ў кватэры дачкі этнографа С. Сахарава Ірыны Сяргееўны, оперная спявачка Надзея Мікалаева-Комісар з Рыгі перадала свой партрэт, выкананы алоўкам.

Спадзяюся, што, падужэўшы, беларусы ацэняць мастацкую спадчыну Пётры Мірановіча і яго землякоў — спадкаемцы нялёгкага лёсу мастака-эмігранта Аркадзя Салаўёва, раманіста Віктара Вальтара, таго ж самага Сяргея Сахарава і многіх, многіх таленавітых людзей беларускага Наддзвіння ў Латвіі.

**Сяргей ПАНІЗНІК.**

**НА ЗДЫМКАХ: П. МІРАНОВІЧ. «Скарына»; «Млын».**

# ЦЯЖАР НА СВАЕ ПЛЕЧЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

*— Алег Анатольевіч, чым была выклікана неабходнасць стварэння (адраджэння) БСДГ у наш час?*

— Штуршком да адраджэння беларускай сацыял-дэмакратыі паслужыла сама рэчаіснасць. Перабудова, распачатая пяць гадоў назад, дайшла ў краіне да поўнага крызісу. І зараз тыя людзі — гэта часткова камуністы, часткова беспартыйныя,—якія верылі ў перабудову, думалі, што можна вырашыць справу, поўнасцю не мяняючы сутнасць грамадска-палітычнага ладу, прыйшлі да высновы, што падрамантаваць сапсаваны механізм не ўдаецца і патрэбны карэнныя перамены. Мала хто верыць у тое, што КПСС, якая пачала перабудову, зможа яе закончыць. І падставы для сумненняў тут сур'ёзныя: узяць хаця б з'езд КПСС, які адбыўся летам. Пасля яго многія камуністы, у тым ліку і я, выйшлі з КПСС. Другая падзея, не менш сумная — восеньскі з'езд КПБ. Ён таксама паказаў, што партыя не мяняецца. Лічаныя людзі на ім выступалі на беларускай мове. Беларускі з'езд пераканаўча паказаў, што КПБ не збіраецца адраджаць нацыянальную культуру і мову, а партыйнае кіраўніцтва спіць і бачыць, як гэта вярнуць застойныя часы назад. Усё гэта падштурхнула, я лічу, тых людзей, якім неабыякавы лёс Беларусі, сур'ёзна задумацца пра тое, што неабходнай умовай для выхаду з крызісу і стварэння сапраўды цывілізаванай, грамадзянскай супольнасці, прававой дзяржавы з'яўляецца існаванне такіх інстытутаў, як шматпартыйнасць.

*— Сярод членаў ініцыятыўнай групы па стварэнні БСДГ — актыўныя прыхільнікі БНФ. Што гэта? Раскол БНФ? У якіх стасунках паміж сабой БНФ і БСДГ?*

— Адразу хачу зазначыць, што БНФ не партыя, а масавы рух, у які з самага пачатку ўваходзілі і ўваходзяць як камуністы, так і беспартыйныя, а зараз члены іншых нядаўна створаных партый, вернікі і няверуючыя. Тыя сябры БНФ, якія ўступаюць у Грамаду, [illegible]гуць заставацца членамі і [illegible], калі гэта не пярэчыць іхнім перакананням. Адна ўмова, што чалавек, які ўступае ў БСДГ, павінен выйсці з іншых партый. Дарэчы, я не сумняваюся, што нацыянальная і культу[illegible] праграма БНФ будзе ца[illegible] падтрымана нашай партыяй і адпаведна — усе тыя дзеянні, якія не пярэчаць нашаму статусу, нашай праграме.

*— Калі казаць аб традыцыях БСДГ, то яе асноўны склад — інтэлігенцыя, дзеячы культуры. Традыцыі будуць захаваны?*

— Паколькі гэта партыя парламенцкая, то ў ёй даволі многа дэпутатаў Вярхоўнага Савета, Мінскага гарсавета, паступаюць заяўкі ад цэлых дэпутацкіх груп... Народ самы розны. Цікава, што колькасць тэхнічнай інтэлігенцыі пераважае над колькасцю гуманітарнай. Ёсць і рабочыя, вайскоўцы. Гэта павінна быць партыя для ўсіх жыхароў Беларусі. Але ў Грамадзе, як вядома, колькасць інтэлігенцыі пераважала. Тэндэнцыя тая самая. Увогуле мы не ставім мэтай шматлікасць партыі. Да свайго ўстаноўчага з'езда, які мяркуем правесці вясной, у нас будзе каля тысячы, а можа і болей прыхільнікаў. Адпаведна з Канстытуцыяй зарэгіструемся і пачнём дзейнічаць. Грамада паспрабуе ў гэты цяжкі перыяд зрабіць усё, каб не зніклі мова і культура нацыі, захаваць незалежнасць і суверэнітэт Беларусі, абвешчаныя летам 1990 года.

*— У Беларускай Савецкай Энцыклапедыі наконт БСГ ёсць такія трактоўкі: «дробнабуржуазная нацыянальная партыя леванародніцкага кірунку», яе члены «не разумелі гістарычнай ролі рабочага класа, не прызнавалі яго гегемоніі ў рэвалюцыі, распаўсюджвалі дробнабуржуазныя згодніцкія і нацыяналістычныя погляды...»*

— Партыя бальшавікоў была, па сутнасці, партыяй меншасці, а не большасці. Пралетарыят у імперыі падчас перавароту 1917 года складаў восем працэнтаў ад усяго насельніцтва. Так што давайце лепш не будзем пра ролю рабочага класа ў рэвалюцыі... Тэндэнцыйнасцю, як вы самі ведаеце, патыхае ад многіх і многіх артыкулаў па гісторыі Беларусі. Цяпер, што датычыцца «нацыяналізму» і «нацыянальнага» ў адносінах да БСДГ. Мяркуйце самі. Рабочай мовай будзе беларуская. Але для нас не мае значэння нацыянальнасць тых людзей, якія будуць яе членамі. Зараз у аргкамітэце, акрамя беларусаў, многа ўкраінцаў і рускіх. Прынамсі, тым «рускамоўным», якія б хацелі ўступіць у нашу партыю, мы будзем дапамагаць у аваладанні мовай, будзем ствараць для нашых членаў спецыяльныя курсы для пашырэння іх ведаў па гісторыі і культуры Беларусі.

*— Адзін са «смяротных грахоў», якія прыпісвалі беларускай (гэтак жа як і ўсёй еўрапейскай) сацыял-дэмакратыі яе апаненты, — гэта арыентацыя на рэформы, на рэфармісцкі, а не рэвалюцыйны шлях перaўтварэнняў, яе ўстаноўкі на сацыяльнае супрацоўніцтва, на вырашэнне спрэчных пытанняў і канфліктных сітуацый мірнымі сродкамі. Адроджаная Грамада не адракаецца ад такіх «грахоў»?*

— Сёння мы з'яўляемся сведкамі своеасаблівай рэабілітацыі гэтых «грахоў». Такую палітыку мы называем «новым мысленнем», «негвалтоўным светам», «узаемнай павагай і супрацоўніцтвам», «вяршэнствам закона». Момант ісціны высвятляе пазітыўны вопыт сацыял-дэмакратыі, яе несумненныя заслугі перад чалавецтвам.

Я лічу, што галоўная мэта дзейнасці адроджанай БСДГ — не дапусціць на тэрыторыі Беларусі грамадзянскай вайны. Мы спадзяёмся і абапіраемся на тую талерантнасць беларусаў, якая была ў іх заўсёды. Думаецца, што самае галоўнае ў палітычных адносінах, асабліва ў такі складаны час, як наш,—гэта захаваць чалавечыя адносіны паміж людзьмі. Партыі ўзнікаюць і знікаюць, а людзі застаюцца. Галоўная наша задача ў Беларусі, якая з'яўляецца самай камуністычнай дзяржавай у свеце (700 тысяч камуністаў пры 10-мільённым насельніцтве) — захаваць мір. Самае жахлівае, што [illegible] выключана ў прынцыпе су[illegible]енне гэтых 700 тысяч, іх бліз[illegible], знаёмых з тымі, хто зняверыўся ў камуністычнай ідэі. У такой сітуацыі мы бяром на сябе функцыю левацэнтрысцкага буфера, які будзе спрыя[illegible] дыялогу і старацца ўсе [illegible]лемы высвятляць менаві[illegible] парламенцкім шляхам, ніколі не апускаючыся да лаянкі і знявагі, да зняважлівай барацьбы па прынцыпу «вока за вока».

*— Алег Анатольевіч, вы сказалі: «будзем рабіць усё, каб пазбегнуць грамадзянскай вайны». Хіба сітуацыя настолькі небяспечная?*

— Калі ўспомніць, як пачыналася ў нашай краіне грамадзянская вайна, то лёгка зрабіць параўнанні з часам цяперашнім. Па-сутнасці, грамадзянская вайна пачалася ўжо ў некаторых рэгіёнах Саюза, у тым ліку і ў суседняй Літве. На жаль, Беларусь, як цалкам несамастойная, можа быць уцягнута ў братазабойства. І ўжо, можна сказаць, уцягнута. Зусім нядаўна загінуў беларус у Латвіі, афіцэр, які бараніў Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі ад «амонаўцаў». І зараз гэтага беларуса прывезлі хаваць на радзіму. А колькі беларусаў зараз у дэсантных войсках, колькі іх удзельнічала ў аперацыі ў Літве! Альбо ўзяць апошні Указ прэзідэнта пра патруляванне гарадоў міліцыяй разам з салдатамі. Узброеныя вайскоўцы, бронетранспарцёры сярод мірнага насельніцтва... Дзе гарантыя, што нейкі правакатар не стрэліць з паляўнічай зброі? Атмасфера і так напружаная. Пачнецца супрацьстаянне, пральецца кроў. Трэба зрабіць усё магчымае, каб гэтага не адбылося.

*— Скажыце, шаноўны Алег Анатольевіч, а ці могуць быць створаны філіі Грамады за мяжой, у асяроддзі нашых суайчыннікаў-эмігрантаў?*

— Членам Грамады можа быць толькі грамадзянін Беларусі. Але нікому не забараняецца быць яе прыхільнікам, не ўступаючы ў партыю, як маральна, так і фінансава.

## НАШ ЧАЛАВЕК У ГАЛІВУДЗЕ

Беларускія кінематаграфісты падпісалі кантракт аб супрацоўніцтве з амерыканскімі калегамі.

«Беларусьфільм» аказвае апошнім тэхнічную дапамогу пры рабоце ў нашай краіне, а ўзамен атрымае высакаякасную плёнку «Кодак», лінзы і г. д. Апрача матэрыяльнай выгады, а гэта дэталёва абгаворана, ёсць і іншыя аспекты. Можна будзе непасрэдна ў сумеснай рабоце набыць вопыт, павучыцца ў прафесіяналаў з Галівуда. Такое супрацоўніцтва, безумоўна, зробіць нядрэнную рэкламу нашай студыі на міжнародным рынку кіно.

Цяпер беларускія кінематаграфісты наладжваюць творчыя сувязі з калегамі з Францыі, ФРГ, Англіі, іншых краін.

## ПАМЯЦІ КАМПАЗІТАРА

Дзевятай сімфоніяй М. Аладава пачаўся вечар у Беларускай дзяржаўнай філармоніі, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння кампазітара. У мемарыяльным канцэрце, які трансліравала ў «жывым» эфіры Беларускае тэлебачанне, удзельнічалі Акадэмічны сімфанічны аркестр БССР (дырыжор Ю. Цырук), салістка філармоніі В. Крываносава.

## ДЫПЛОМ — МІНЧАНЦЫ

У Маскве прайшоў І Міжнародны конкурс акардэаністаў і баяністаў, у якім бралі ўдзел выканаўцы з 9 краін свету. У склад савецкай дэлегацыі ўваходзіла студэнтка IV курса Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Ніна Слюсар (акардэон, клас заслужанага артыста БССР прафесара М. Сеўрукова). За паспяховае выступленне ва ўсіх турах конкурсу Н. Слюсар нададзена званне дыпламанта гэтага конкурсу.

## У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ

# ДА БЕЛАРУСКАЙ ТЭМЫ

Калекцыі філатэлістаў, якія цікавяцца беларускай тэматыкай, папоўніліся новымі выпускамі. Гэта перш за ўсё марка, якую чакалі даўно і з нецярпеннем. Міністэрства сувязі СССР выпусціла серыю марак «Помнікі гісторыі». На васьмі маляўнічых каляровых мініяцюрах паказаны выдатныя творы архітэктуры мінулых стагоддзяў. Гэта ансамбль Шырваншахаў (XV стагоддзе) у Баку, царква св. Ішана ў Ахпаце ў Арменіі (X стагоддзе), пантэон Мтацмінда ў Тбілісі і помнік Нікалазу Бараташвілі, царква Пятра ў Рызе (XIII—XVII стагоддзі), кафедральны сабор у Вільнюсе (XIII—XVIII стагоддзі), царква Нігулістэ ў Таліне, крэпасць у Сароках (Малдова) і ўпершыню адлюстраваныя на паштовай марцы архітэктурныя шэдэўры Полацка—Сафійскі сабор (XI—XVIII стагоддзі) і сабор Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра (XII стагоддзе). Тэксты на марках дадзены на рускай і нацыянальных мовах рэспублік. Выпуск гэтай серыі будзе прадоўжаны.

Споўнілася 225 гадоў з дня нараджэння рускага палкаводца, героя Айчыннай вайны 1812 года князя П. Баграціёна (1765—1812). Гэты юбілей пошта адзначыла выпускам мастацкага канверта, на якім паказаны партрэт палкаводца, на арыгінальнай марцы канверта — рускія баявыя сцягі і юбілейны тэкст. Гэта не першы выпуск савецкай пошты, прысвечаны П. Баграціёну. Некалькі гадоў таму назад былі выдадзены два канверты з адлюстраваннем бронзавага бюста палкаводца, устаноўленага перад будынкам ваенна-гістарычнага музея ў Ваўкавыску. Ваенна-патрыятычнай тэме прысвечаны яшчэ адзін выпуск пошты, які таксама мае некаторыя адносіны да беларускай тэмы. 750-годдзю Неўскай бітвы, перамозе рускіх войск над шведамі ў вусці ракі Іжоры пад камандаваннем князя Аляксандра Яраславіча, празванага Неўскім, прысвечаны паштовы блок з адлюстраваннем эпізода Неўскай бітвы, выкананы ў стылі ноўгарадскага іканапісу XVI стагоддзя. На марцы блока змешчаны партрэт Аляксандра Неўскага. У ніжняй частцы блока радок з летапісу: «И бысть сеча велика...» У гэтай бітве прымалі ўдзел полацкія дружыны.

Да гістарычнай тэмы адносяцца два мастацкія канверты, адзін з якіх прысвечаны 450-годдзю невялікага палескага гарадка Лунінца. На малюнку канверта паказаны лунінецкі чыгуначны вакзал. Другі канверт — адзіны ў сваім родзе ў практыцы выпускаў нашай пошты — паказвае адразу шэсць гербаў гарадоў Беларусі XVI—XIX стагоддзяў. Вядомыя гербы Брэста, Гродна, Віцебска, Мінска, Магілёва і Гомеля дадзены на фоне карты Беларусі.

Прыродзе нашай рэспублікі прысвечана многа цікавых марак і канвертаў, напрыклад, Белавежскай пушчы, Бярэзінскаму запаведніку. А цяпер выпушчаны канверты пад назвай «З Чырвонай кнігі Беларускай ССР». На адным паказана драфа, рэдкая сёння для Беларусі птушка. Малюнак канверта як бы паказвае разгорнутую кнігу, на старонках якой дадзена адлюстраванне птушкі. Другі і трэ[...] нверты гэтай серыі прысв[...]аны рэдкім і знікаючым раслінам нашай рэспублікі. На іх паказаны сон-трава і купальніца еўрапейская (пярэсна еўрапейская).

А вось я[...] адзін канверт з кветкамі – [...]а гэты раз на ім прыгожыя ружы чырвонага колеру, і пад імі ўсяго адно слова напісана па-беларуску — «Віншую!» Гэты канверт спецыяльна выдадзены для розных віншаванняў. За многія гады выпуску мастацкіх канвертаў (гэта значыць канвертаў з малюнкамі, а іх выпускаюць ужо амаль 40 гадоў) такія віншавальныя на беларускай мове выдаюцца ўсяго некалькі апошніх гадоў.

Вышэй я ўжо расказаў пра тое, што была выдадзена паштовая марка з архітэктурнымі шэдэўрамі Полацка. Гэтая тэма прадоўжана на мастацкім канверце з серыі «Архітэктурныя помнікі саюзных рэспублік». На ім надпіс «Беларуская ССР. Полацк. Сафійскі сабор. XI—XVIII ст. ст.» на дзвюх мовах і адлюстраванне самога сабора. А вось яшчэ адзін канверт, ён таксама расказвае аб архітэктуры рэспублікі, але архітэктуры нашых дзён. На канверце вучэбны корпус Беларускага політэхнічнага інстытута, пабудаваны ля ўезда ў Мінск на Маскоўскай шашы. Корпус са шкла і бетону нагадвае вялікі карабель.

Два канверты прысвечаны перыяду Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў. На іх дадзены партрэты вядомых савецкіх палкаводцаў і ваенных дзеячаў. Галоўны маршал авіяцыі К. Вяршынін, удзельнік баёў у Беларусі ў складзе 4-й Паветранай арміі, у гады грамадзянскай вайны змагаўся на тэрыторыі Беларусі. Маршал Савецкага Саюза П. Баціцкі — удзельнік Беларускай аперацыі 1944 года.

У пачатку кастрычніка на Мінскім паштамце прайшло традыцыйнае спецыяльнае гашэнне карэспандэнцыі «Тыдзень пісьма». Яно праводзіцца штогод вось ужо 33 гады. Першае такое гашэнне адбылося на Мінскім паштамце ў кастрычніку 1957 года.

**Леў КОЛАСАЎ.**

## ПАВАЖАНЫЯ ЗАМЕЖНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!

**Падпіска на тыднёвік «Голас Радзімы» — ваш дзейсны крок у збудаванні моста вашай духоўнай лучнасці з Бацькаўшчынай!**

**Сваімі інфармацыйнымі і аналітычнымі матэрыяламі на роднай мове, якія грунтуюцца на прынцыпах плюралізму, «Голас Радзімы» дае магчымасць суайчыннікам дасведчана сачыць за ўсёй шматграннасцю напружанага жыцця Беларусі.**

**НАГАДВАЕМ: НАШ ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63854, ЦАНА НА ГОД — 13 ДОЛАРАЎ ЗША.**

**Аднак вострыя праблемы краіны, на жаль, ужо аказваюць адмоўнае ўздзеянне на памкненні зарубежных беларусаў падпісацца і атрымліваць «Голас Радзімы». Сведчанне гэтаму — вашы нараканні на хібы і зрыў падпіскі, што праводзіць Усесаюзнае аб'яднанне «Міжнародная кніга» праз заходнія магазіны і фірмы, некаторыя з якіх сёння наогул закрываюцца. Выправіць становішча рэдакцыя не ў стане: «Міжкніга» — манапаліст у гэтай справе. Аднак, рэагуючы на скаргі, мы дасылаем нашу газету за кошт рэдакцыі і «пацярпеўшым» адрасатам, і па прыватных просьбах. Мы будзем і надалей ісці такім шляхам насустрач пажаданням нашых іншаземных чытачоў, пакуль эканамічны крызіс, падаражанне паперы і паштовых паслуг канчаткова не падвядуць нас, як і ўсе перыядычныя беларускамоўныя выданні рэспублікі, да фінансавага краху.**

**ШАНОЎНЫЯ ЗАМЕЖНЫЯ ЗЕМЛЯКІ! КАЛІ ВАМ НЕАБЫЯКАВЫ ЛЁС ГАЗЕТЫ, ЧАКАНАЙ ГОСЦІ Ў ВАШЫМ ДОМЕ, БУДУЧЫНЯ ВАШЫХ ДУХОЎНЫХ СУВЯЗЕЙ З РАДЗІМАЙ, АХВЯРУЙЦЕ ПАСІЛЬНЫЯ ВАЛЮТНЫЯ ДАТКІ НА СТВАРЭННЕ ФОНДУ ДАПАМОГІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ». АХВЯРАВАННІ (І ЯК ПРАЯВА ДАБРАЧЫННАСЦІ, І ЯК КАМПЕНСАЦЫЯ ЗА ПЕРАСЫЛКУ) НАКІРОЎВАЙЦЕ НА АДРАС: БССР, 220600, г. МІНСК, ВУЛ. ЗАСЛАЎСКАЯ, 10, ПАЗАБАЛАНСАВЫ РАХУНАК 933280 У ОПЕРУ ЗНЕШЭКАНОМБАНКА БССР, ФОНД ДАПАМОГІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ».**

## ДА ЎВАГІ ЧЫТАЧОЎ «НІВЫ»

З красавіка мінулага года парваўся кантакт газеты «Ніва» (орган Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) з Беластока) з чытачамі ў Беларускай ССР. У сувязі з павышэннем цэн фірма «Арс Полёна» спыніла экспарт усіх польскіх выданняў і прапанавала «Международной книге» новыя цэннікі. Дагэтуль абедзве фірмы не дамовіліся.

У такой сітуацыі рэдакцыя газеты і выдавец — БГКТ сталі шукаць партнёра, які дапамог бы вярнуцца нашаму тыднёвіку на беларускі чытацкі рынак. У снежні Беларускае грамадска-культурнае таварыства пры дапамозе Беларускага таварыства «Радзіма» заключыла дагавор з Беларускім рэспубліканскім аб'яднаннем «Саюздрук» на распаўсюджванне «Нівы».

**ПАЧЫНАЮЧЫ СА СТУДЗЕНЯ, «НІВА» ПРАДАЕЦЦА Ў КІЁСКАХ (ЦАНА АДНАГО ЭКЗЕМПЛЯРА — 50 КАПЕЕК) І АДНАЧАСОВА ПРАВОДЗІЦЦА ПАДПІСКА. НА «НІВУ» МОЖНА БУДЗЕ ПАДПІСАЦЦА Ў АДДЗЯЛЕННЯХ «САЮЗДРУКУ» З ТЭРМІНАМ ПАСТАЎКІ АД 1 ЛЮТАГА 1991 ГОДА. ЦАНА ПАДПІСКІ**

**— МЕСЯЧНАЯ — 2 РУБЛІ**
**— КВАРТАЛЬНАЯ — 6 РУБЛЁЎ**
**— ПАЎГАДАВАЯ — 12 РУБЛЁЎ**
**— ГАДАВАЯ — 24 РУБЛІ.**

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ



**Ніна Іванаўна ПЛУЖНІКАВА (ВАЎКОВІЧ)**, 1930 года нараджэння, шукае сваякоў, дзяцей роднай сястры **Веры Іванаўны РАДЧАНКА (ВАЎКОВІЧ) — Сяргея Сцяпанавіча РАДЧАНКУ**, 1928 года нараджэння, **Мікалая Сцяпанавіча РАДЧАНКУ**, 1934 года нараджэння, **Ніну Сцяпанаўну РАДЧАНКА**, 1930 года нараджэння. **Вера Іванаўна РАДЧАНКА (ВАЎКОВІЧ)** разам з мужам і дзецьмі выехала ў Канаду пасля вайны. Перапіска з імі перапынілася ў пяцідзесятых гадах.

Просім усіх, хто што-небудзь ведае пра **Веру РАДЧАНКА** і яе сям'ю, пісаць у рэдакцыю альбо на адрас:

**БССР, 231600, Гродзенская вобласць, г. Масты, вул. Клары Цэткін, д. 5, кв. 28. ПЛУЖНІКАВАЙ Ніне Іванаўне.**

**НА ЗДЫМКУ: Мікалай Сцяпанавіч РАДЧАНКА.**

## НАЧНЫ ПАХОД

Цэлую ноч правялі ў густым лесе Налібоцкай пушчы трое другакласнікаў з вёскі Бакшты, што на Гродзеншчыне.

Т. Юшкевіч, якая працуе выхавальнікам групы падоўжанага дня, павяла дзяцей на прагулку. Вось тады трое сяброў — Алег Віршыч, Аляксей Ходаў, Сяргей Рыжэвіч і вырашылі самастойна пагуляць па зімнім лесе. Ціха адышлі ад настаўніцы і асноўнай групы дзяцей. Налібоцкім рабінзонам спачатку было весела блукаць па лесе, але хутка сцямнела і надышла ноч.

Тамара Яўгеньеўна адразу ж паведаміла аб прапажы дзяцей, уся вёска ўзнялася на пошукі хлопчыкаў. З Іўя прыбылі работнікі міліцыі з сабакамі і рацыямі. На дарогах, палянах, сцежках былі раскладзены вялікія вогнішчы, усюды стаялі людзі з ліхтарамі.

Знайшлі дзяцей на другі дзень раніцай, калі яны, выбіўшыся з сіл, першы раз прыселі адпачыць у лясной лашчыне непадалёку ад вёскі Шыльвы.

**В. САЛАСЮК.**





## НАШ АДРАС:

**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 257.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12